# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1970
Ліпень-
Жнівень

Год XVIII
№ 4 (121)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ.

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

**УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.**


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVIII** **July—August** **№ 4 (121)**

**1970**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVIII ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ 1970 № 4 (121)


# ПРЫПОВЕСЬЦІ паводле ЭВАНГЕЛЛЯ МАТЕЯ — МАРКА — ЛУКІ — ЯНА

*Пераказаў а. Я. Гэрмановіч*

## ПРАДМОВА

Добра сталася, што аўтар баек і прынагодных вершаў натрапіў на тэму да гэтай пары ў літаратуры (нават і сусьветнай), ня выкарыстаную, а вельмі для цяперашняга стурбаванага сьвету актуальную: даў у сваіх паэтыцкіх камэнтарах — вельмі блізка тэксту Эвангелляў — Хрыстовыя *прыповесьці*. Пры гэтым зусім не зьвязаў сябе імі, а выказаў сваім спосабам, стылем, нават з гумарам тое, што найбольш закранае беларускую душу, незалежна ад сьветапагляду ці пракананьняў.

Ведама, што мастацка слабыя творы, нават пры найлепшай тэндэнцыі, ніколі і нікога не пераконваюць. Таму «Боская Камэдыя» Дантэ, «Рэквіэм» Моцарта або «Піэта» Мікэлянджэлё аднолькава захапляюць, як веручых, так і няверучых, не зважаючы на тое, што гэтыя найвялікшыя творы мастацтва створаны глыбока веручымі геніямі. Аднак сьцьверджана, што ўжо не адзін віртуоз, іграючы на скрыпцы ці на арганах творы Моцарта, атрымаў ізноў загублены ў суталацы жыцьця дар веры.

Няма сумніву, што сапраўднае мастацтва служыць праўдзе і дабру. Аднак яно служыць незалежна ад мастака, ад якога вымагае каб быў слугою, а не панам свайго таленту. Толькі пры такой умове ён сам можа стацца слугой тых найвышэйшых ідэалаў, якім служыць само мастацтва. Нядарма паэтаў называюць сьвятарамі мастацтва!

На прыкладзе гэтых «Прыповесьцяў» мы яшчэ раз пераконваемся, што для іх аўтара, як сапраўднага мастака, зусім не важна, якую тэму ён бярэ на свой варштат. Важна, як ён сабе дае рады з гэтай тэмаю, у якую форму яе апранае ды які выгляд ёй дае. Гэтая справа ў першую чаргу павінна цікавіць крытыкаў, якія, на жаль, часамі самі ня ведаюць, чаго ад аўтара павінны вымагаць. Таму найлепшымі крытыкамі мусяць заўсёды будуць самі чытачы, якія без хітрасьці здаровым розумам бачаць, «што чым пахне, чаго варта і якія знакі». (А. Паўловіч).

Беларускі чытач, які таму сорак гадоў прачытаў хоць адзін верш, пад якім падпісаўся «Вінцук Адважны», «Лявон Ветрагон» або а. Язэп Гэрмановіч і сяньня абавязкава прачытае кожную рэч, пад якой убачыць адзін з гэтых подпісаў.

Тут трэба адзначыць яшчэ і тое, што «Прыповесьці» выходзяць у сьвет якраз у часе, калі аўтару споўнілася 80 гадоў! Вось-жа чытачы, якіх наш аўтар-юбіляр яшчэ 40 гадоў таму зацікавіў сваім талентам, сяньня могуць пераканацца, што гэты талент ані крышку не пастарэў, ані аслабеў, але наадварот, набраў больш сілы і лёгкасьці, якая прарочыць яму і чытачам не адну прыемную неспадзеванку.

Дык жадаем яму яшчэ большых посьпехаў на Беларускім Парнасе, дзе ўжо даўно займае паважнае месца!

*Др. Тамаш Падзява*

# Паводле Матэя

## СЯЎБІТ І НАСЕНЬНЕ

Сяўбіт, як выехаў у поле,
Сьпяваў: — Ах, доля мая, доля! —
Ён сыпаў з радасьцяй насеньне
Рукою шчодрай — між каменьняў,

І паміж церняў на раллі
І на прыдатнай там зямлі.
А іншае зерне ён з размаху
Рассыпаў пры дарожным шляху.

Быў лёс зернятак разнаякі,
Бо грунт трапляўся усялякі:

Што на дарожны шлях папала,
Там і прапала!
Ня мела кораня свайго,
Ці птушкі зьдзюбалі яго.

А між каменьняў што папала,
Прыгожа зразу узрастала;
А пасьле, сонца як прыгрэла,
Зернятка хутка абамлела,
Бо корань, як упёрся ў камень,
Засох на «аман»!

А шчасьлівейша было зерне,
Якое ўпала паміж церняў:
Яно-ж у цені там расло
І зелянела і цьвіло. —

А людзі цешыцца сьпяшылі, —
Дый яго церні заглушылі!...

А інша зерне, як на дзіва,
Расло памысна і шчасьліва:
І грэла сонца, дождж прыдаўся,
А грунт быў розны, але ўдаўся. —

Адно зярнё дало зернят
Па сто, па трыццаць, шэсьцьдзесят!

*

ХРЫСТОС казаў:

— Хто слухаць хоча й розум мае,
Хай пра душу з надзеяй дбае!

ТАМАШ казаў: — Не разумею,
Але спытацца я ня сьмею! —

ХРЫСТОС яму:

— Ёсьць людзі, як той падарожны:
Здаецца, вонках ён пабожны,
А ў час спакусы д'ябал можа,
Як птушка, ўкрасьці слова Божа. —

А хто на камені там сее,
Дык гэта людзі з душой плыткай:
Не маюць грунту для ужытку,
Дык у спакусах зараз млеюць —
Трываць ня хочуць ці ня ўмеюць.

А ўжо праз церні колькі шкоды!
Забавы, танцы дый выгоды
І праца, бізнэс, і турботы
І ўсе сямейныя клапоты...

Вось гэта церні: ў тым кірмашы
Яны так глушаць душы вашы,
Што вы у гэтым буднім сьмецьцi
Забылі Бога ў вашым сьвеце! —

Зямля ўраджайна — душы чысты
І сьветлы, ясны, прамяністы,
Што слова Божае прыймаюць,
Бо праўду знаюць.

Яны, на колькі могуць здужаць,
Богу служаць... —
Пшанічка сьветла, залатая —
Душа сьвятая:
Такіх людзей найболей трэба —
Для неба!

(Матэй 13, 3 — 23)

## ПШАНІЦА І КУКОЛЬ

Ізноў наконт гаспадара
Прыповесьць. — Шмат ён меў дабра:
Вясной пшанічку, як пасеяў,
Дык меў на плён сваю надзею.

Але, час даўшы, прышлі слугі
І кажуць: — Ах-ах, гаспадар!
Ты сеяў зерне — Божы дар —
Нам даў шмат працы і натугі. —

Чаму ў тваей пшанічцы чыстай —
Такой прыгожай — залацістай —
Нам, папсаваўшы твае пляны,
Нарос куколь такі паганы?

А ён ім кажа: — Вораг люты, —
У гнеў абуты —
ў злосьць падкуты, —
Як слугі спалі, ўночы ціха
Насеяў нам благога ліха! —

А слугі кажуць: — Ты пазволь:
Мы вырвем з кораням куколь! —

Ды гаспадар ім кажа: — Не!
Так шкода больша будзе мне:
Праз тое там чартоўска збожжа
Цярпець пшанічка крыўду можа, —

Ці патаптацца,
Паламацца, —
Ці мала што там можа стацца? —
Як пачакаем да жніва,
Тады жанцом скажу: «Раз-два!»

А плян мой будзе вось які:
Зьвязаць пшаніцу у снапкі,
Звазіць, старанна змалаціць, —
З таго мы посьле будзем жыць . . .

Куколь пракляты і нягодны,
Каб больш ня быў нікому шкодны,
Зьбяром у кучу ды падпалім —
Агнём вялізным, незгашальным! —

*

ХРЫСТОС казаў:

— О, дзень вялікі, дзень расплаты!
Айцец мой — Гаспадар багаты:
«Пшаніца» — верны народ Божы,
«Куколь» — няверны стан варожы.

Хто шчыра хоча служыць Богу,
Той знайдзе ў Богу,
Ўсю падмогу:
Хай не марнуюць чалавекі
Такога шчасьця на ўсе векі!

(Матэй 13, 24 — 30)

## АРАНДАТАРЫ

Яшчэ прыповесьць ёсьць другая
І характэрная такая:

Быў гаспадар: меў сад і поле,
І дом і мілае прыволле.

Ля дому гадаваў прысаднік
Дый у гародзе — вінаграднік.

Правёў канавы, вадаём
З вадою сьвежай і руч'ём.
Абгарадзіў, паставіў вежы,
А сам падаўся дзесь за межы.

Калі-ж пасьпелі ўжо плады,
Паслаў сваіх людзей туды,
Каб з саду і з зямель сумежных
Пажытак адабраць належны.

Дый арандатары не спалі:
Як небасьпеку разазналі,
Схапілі шыбка за камяньні
І за калы і за паленьні, —

А пасланцоў, як падпусьцілі,
Каго паранілі, прыбілі,
Каго, каменьмі закідаўшы,
Галовы ім паразьбіваўшы,
Прагналі іх з вачэй далоў,
Каб не вярнуліся ізноў!

*

Дый гаспадар, як на бяду,
Паслаўшы большу грамаду,
Казаў: — Ну, гэтых мо' збаяцца?
Каб мне у страце не астацца . . . —

А тыя злыдні ў большай злосьці
І гэтым паламалі косьці!
Казалі: — Дасьць ён нам спакой, —
На ўсё цяпер махне рукой! —

А ён меў сына аднаго —
Паслаў рашуча і яго:
— Мо', кажа, сорамам праняты,
Ня будуць злосна так заўзяты? —

Яны-ж у жорсткай грамадзе
Бягуць-крычаць: — Вунь сын ідзе! —
Заб'ём яго і ўвесь шабаш,
А вінаграднік будзе наш! —

Зьнянацку сына, як схапілі,
Паставілі на сьмех, на зьдзекі!
І, як дзікія чалавекі,
Яго параніўшы, забілі! —
А цела, кінуўшы далоў,
Спакойна ўсе пайшлі дамоў . . .

*

ХРЫСТОС пытаў:

Што зробіць гаспадар з такім
Народам дрэнным і благім?

А слухачы яму гамоняць:
— Найперш з арэнды іх прагоніць,
А зараз іх аддасьць пад суд —
Аж будзе ім усім капут!

*

ХРЫСТОС казаў:

— Вы разрашылі ўсю задачу:
О, сапраўды, ня будзе йначай! —

Як будаўнічыя нязручна
Вялізны камень адапхнулі,
А самі змучаны заснулі,
Хоць і падпёрлі яго штучна, —

Ён на галовы ім зваліўся!
І так той камень прымасьціўся,
Што стаў падставай і вуглом, —
Тады на ім абпёрся дом!...

Вы — арандатары у Бога,
Якая-ж вашая дарога?

Хай камень ляжа, як аснова,
Дык будзе моцная будова:
Інакш саміх вас прыгняце,
Або са сьвету вас зьмяце!

(Матэй 21, 33 — 46)

## ЛОЎЛЯ РЫБЫ

Так з Царствам Божым, як і з рыбкай:
Тут людзі ў працы, прытым з гора
Кідаюць-цягнуць сеткі з мора —
Скарэй-скарэй і шыбка-шыбка!...
Ах, неспакойна скача рыбка,
Бо хоча вырвацца з той сеткі,
Як мышка з клеткі.

Рыбак той літасьці ня чуе:
Павук на муху так палюе,
Так воўк трапляе ў сьлед авечы,
Так тыгр сачыць сьлед чалавечы...

А невад шчыра цягнуць з мора
Ды гаспадар сваім гавора:
— Гэй, слугі, пільна разглядайце:
Тавар у кошык адкладайце,
А драбязу і ўсю нягоду
Кідайце ў воду! —

Тавар ідзе на абработку —
Для заработку...

*

ХРЫСТОС вучыў:

— Айцец судзіць таксама будзе
І сартаваць на Страшным Судзе:
Там пойдзе ў неба першы сорт,
А брак — за борт! —

Не знаеце ні дня, гадзіны:
Гатовы будзьце што хвіліны,
Як анёл з гробу вас пакліча,
Каб стаць прад Божае аблічча! —

(Матэй 13, 47 — 50)

## ДОЎГ І ДАЎЖНІК

О, Царства Божае аздобна!
Каму й чаму яно падобна?

Яно падобнае Цару —
Сусьветнаму Валадару,
Што меў работнікаў мільёны,
Хоць і былі там «фараоны».

Адзін круціўся, як вужака,
Але-ж папаўся, небарака! —
Ня быў ніхто такі другі —
Залез па вушы у даўгі. —

Аж на талентаў тысяч дзесяць! —
Баяўся, што яго павесяць...
Ды на пустое ўсё прашастаў,
А як плаціць, сказаў ён: «Баста!» —

А гаспадар на яго долю,
— Прадам, казаў, цябе ў няволю —
Дзяцей ды жонку — ўсіх кагалам:
Яшчэ й таго мне будзе мала! —

Даўжнік упаў яму у ногі —
Аж плакаў: — Зжалься! я-ж убогі:
Жалею, каюся — паверце, —
Што буду сплачываць да сьмерці! —

А гаспадар: — Ну, Бог з табою —
З тваею горкаю сьлязою:
Да працы чэснай пасьпяшы —
Ідзі і болей не грашы! —

*

Даўжнік у радасьці падскочыў!...
Але, як выйшаў, яму ў вочы
Сусед папаўся небагаты,
Што быў там нешта вінаваты. —

Тут «фараон», як закрычыць,
Схапіў за горла — стаў душыць:
— Аддай мне зараз сто дынараў,
Бо трупам ляжаш тут-жа зараз! —

Той просіць: — Браце, пачакай —
Перадыхнуць хвілінку дай! —
Я-ж у такой страшной патрэбе —
Аддам усё, як Бог на небе! —

Той кажа: — Тут табе капут!
Як стой, аддам цябе пад суд:
Кусочка хлеба не зьясі, —
Аж грош апошні аддасі! —

*

А гаспадар яго пакліча
Прад сваё гнеўнае аблічча.

Гаворыць: — Ах, ты, недаеда!
За што душыў свайго суседа?

Я даравау табе таленты —
Гэта-ж мільёны: і працэнты. —
А ты, нягоднік, тут-жа зараз
Душыў за што? за сто дынараў? . . . —

Дык загадаў яго зьвязаць
І ў ланцугі мацней скаваць:
Прадаць нягодніка ў няволю,
Каб стуль ня выйшаў ён ніколі!

*

ХРЫСТОС казаў:

Так мой Айцец аддасьць, на дзіва,
Той самай мерай, справядліва,
Якой ты мераў свайму брату,
Такую будзеш мець адплату! —

А ці вяліка, ці малое
Што зробіш меншаму з людзей —
Пры маей сьвятасьці усей —
Лічыцца будзе Мне ўсё тое. —

(Матэй 18, 24 — 35)

## РАБОТНІКІ Ў ВІНАГРАДНІКУ

Быў гаспадар на сьвеце Божым:
Ён вінаграднік меў прыгожы —
Прасторны, складны дый шырокі,
А плот наўкола быў высокі.

Той сад пладоў даваў нямала!
Ды толькі што ў ім бракавала —
Людзей да працы ў час асеньні,
Каб і даход плыў без спазьненьня . . .

*

Аднойчы рана, ў дзень гарачы,
Як толькі гаспадар пабачыў,
Што вінаград пасьпеў наўкола —
Работа сьпешна і вясёла,

Дык выйшаў перад сонца ўсходам,
Каб з вольным гаманіць народам,
Ці хто хацеў-бы працаваць,
Каб вінаград прыйшлі зьбіраць.

Якраз чакалі кандыдаты;
Наймаў-гадзіўся наконт платы:
— А, ну, скарэй ка мне і зараз —
Вам зарабіць трэ' па дынару! —

Ёсьць грамада і немалая. —
Дый вінаграднік вымагае
Яшчэ і больш людзей — дадатку, —
Дык ён другую ўзяў грамадку!

Падумаў так: — Было-б і досьць,
Але мой сад і болей просіць,
Як пагаворка наша трубіць:
«Зямля скупых паноў ня любіць!»

Нашто зямельцы марнавацца?
Людзям таксама лепш наняцца,
Бо безрабоцьце — гэта гора,
Як і хвароба або й горай! —

А трэцяй, шостай і дзевятай,
Аб адзінаццатай гадзіне —
Казаў ён грамадзе нанятай:
— Ідзіце! сад мой і вас прыйме! —

*

З апошнімі была прыгода. —
Казаў: — Дапраўды, мне вас шкода!
Што-ж вы стаіце тут самотны
І безработны? —

Яны ўздыхнулі: —Мы чакаем:
На жаль, ніхто нас не наймае! —
Казаў: — Ну, што-ж? Вам трэба жыць:
Дынар ідзіце зарабіць! —

Яны прыбеглі на хвілінку
І працавалі ледзь гадзінку;
А гаспадар даў па дынару,
Ну, так сказаць, больш як ахвяру . . .

Прыходзяць тыя, што з дзевятай
І адышлі з той самай платай.

Прышлі і з шостай, посьле з трэцяй
І кажуць: — Хочам ад Вашэці,
Каб даў нам плату значна болей,
Калі — то згодна з вашай воляй. —

А гаспадар на гэты словы
Даў па дынару без размовы.

А тыя, што прышлі ад раньня
І працавалі да зьмярканьня,
Казалі: — О, нам тутка дзіва,
Што за работу плацяць крыва!

Бо мы прайшлі праз час сьпякоты,
А дастаём за дзень турботы
Дынар! — Чаму? —
Нам дай прычыну, —
Так як і тыя за гадзіну? . . . —

А ён казаў: — Ах, дэлегаты!
Якая спрэчка наконт платы?

Няма тут крыўды — няма шкоды,
Бо я плачу паводле згоды. —

Дынар — то плата ўся сумленна —
І не малая, і ня дрэнна,
І цалкам поўна — не скупая
І на жыцьцё сям'і хапае.

А што я даў тым незанятым,
Што ня былі ў пару наняты,
Дык гэта, значыць, з добрай волі:
Работы меней — шчасьця болей! —

Дынар вазьміце без размовы!
Ну, вам здалося — я суровы, —
Дык хай сумленьне адазьвецца,
Бо крыўда толькі вам здаецца. —

*

ХРЫСТОС казаў:

Ў жыцьці бывае, што апошні,
Астатні ці марудны й позьні, —
А месца ў працы займе перша, —
Яму і плата будзе лепша.

А хто быў першым у пачатку,
Дык астанецца на канчатку!
І Бог таксама разьмяркуе,
Каму і што і як пасуе.

А людзі ёсьць, што так як дзеці,
Таго ня могуць зразумеці . . .

(Матэй 20, 1 — 16)

## ДВА СЫНЫ

Прыповесьць гэта — фарызэям,
Што мелі блудную надзею.

Меў гаспадар дваіх сыноў:
Да аднаго ён падыйшоў
І кажа: — Ах, сынок, схадзі —
Ты ў вінаграднік паглядзі,
Ці пільнае няма работы? —
Аднак сынок ня меў ахвоты,
А бацьку ветліва гавора:
— Іду-бягу вось зараз-скора! —

Ну, бацька ў садзе сам капаўся,
Але сынка не дачакаўся . . .
Пачаў другога сына клікаць,
А гэты адгукнуўся дзіка:

— Ой, не пайду! Зусім ня хочу
І дарма мне ня лезьце ў вочы! —
Аж бацьку ў сэрцы зашчымела —
Душа ад крыўды анямела!

Аднак-жа сыну стыдна стала —
Ад успаміну дух займала! —
І ўжо да працы меў ахвоту
І дзень увесь рабіў да поту.

*

ХРЫСТОС пытаўся:

— Каторы сын, другі ці першы
Для бацькі быў паслушны й лепшы?

СКАЗАЛІ: — Той, што адказаўся,
Аднак ён зараз застыдаўся
І за работу шчыра ўзяўся. —

ХРЫСТОС казаў:

— О, так бывае і з людзьмі:
Той — нехта — моліцца з сьлязьмі, —
Аж уздыхае, — ён набожны,
Укладны й вельмі насьцярожны. —

Але душа яго крывая!
Хоць Богу шмат што абяцае,
Ды, апрача сябе самога,
Ён больш ня любіць анікога!
Шукае славы дый ганораў,
Як фарызэй з душою хворай . . . —

*

Але бывае тып адменны —
Людзей злачынных, надта дрэнных —
Грахамі рознымі багатых
І фарызэямі праклятых. —
Трымаюць іх усьцяж на воку,
Пагарду чуючы глыбоку . . .

Але-ж у Бога
Ласкі многа:
Бог мае і між тых благіх
Сваіх дзяцей — сваіх сьвятых,
Якія ў жалю і ў пакуце
Чысьцей, чым золата ў агні,
Як серабро і медзь у гуце!
Блішчаць і сьвецяць так яны,
Як зоркі ў небе ў цёмнай ночы,
Як у нявінных дзетак вочы! . . .

Хай грэшнік зьвернецца да Бога:
Бог не адкіне анікога!

(Матэй 21, 28 — 31)

## ДЗЕВЫ РАЗУМНЫЯ І ДУРНЫЯ

Прыповесьць будзе аб вяселлі:
Адвеку людзі яго мелі;
Адаму жонку Бог даваў —
Адразу іх і шлюбаваў!

Бо людзі мусяць з сьмерцццю біцца,
Таму і трэба ім жаніцца,
Інакш-бо сьмерць з сваей касою
Пабіла-б сьвет ў няроўным бою.

Казаў Бог першу сям'ю скласьці —
На вернасьць, радасьць і на шчасьце:
Кідаць насеньне ў адраджэньне —
Так з пакаленьня ў пакаленьне.

*

А вось якраз ў пару Хрыстову
Пачулі мы прыповесьць нову:
— Прыедзе зьвечара жаніх! —
Гасьцей скарэй спрасілі ўсіх:
Дзяўчат шукалі для асысты;
Прасілі, каб прыйшлі харысты
І музыканты й цымбалісты!

А ўвечар позна, як чакалі,
Адны драмалі, іншы спалі . . .
Упоўнач кліч: — Устаць-устаць!
Бо жаніха трэ' спатыкаць . . . —

*

Выходзяць на спатканьне дзевы:
Яны — прыгожы каралевы!
А на галоўках іх вяночкі
І кветкі, як жывыя вочкі.

Адзежа доўга — водле цела,
Блішчыць, як сьнег — такая бела!
Стаяць
Па пяць —
У два гурточкі —
Чарнавочкі . . .

Падобны ўсе, (ці так здаецца?),
Але, як добра прыглядзецца —
І на адных і на другіх —
Убачым мудрых і дурных . . .

Адны стаяць парадна, роўна:
Алівы ў іхніх лямпах поўна. —
Яны — разумныя дзяўчаткі. —
Шчасьлівыя з іх будуць маткі —
На любасьць, радасьць чалавеку,
Каму празначыў Бог адвеку . . .

Але ў другіх няма алею
І языкоў стрымаць ня ўмеюць:
А то сьмяюцца,
То злуюцца —
І неяк круцяцца бяз толку,
Як-бы прысеўшы на іголку.

*

Быў кліч: — Шыкуйце лямпы ўсе! —
А ў гэтых гаснуць пакрысе . . .
Ажно спужаліся дурныя:
— Ах, нашы лямпачкі пустыя! —

Кнаты смыляць, агеньчык гасьне:
— О, стыдна-страшна, ратуй, Божа!
Хто-ж у бядзе нам дапаможа?
Жаніх прад намі дзьверы плясьне! —

І просяць мудрых, шчыра моляць —
Аж плачуць, грозяць і няволяць:
— Пазычце нам хоць трошкі масла,
На жаль, у нас сьвятло пагасла! —

Але ім мудрыя гавораць:
— Нашто нам спрэчкі?
Бляеце, дружкі, як авечкі:
Жаніх ідзе і сон нас морыць . . . —
Нальём алівы вам —
Ня хопіць нам!
Вы позна ўсталі —
Вы шчасьце тут сваё праспалі . . . —

Вы лепш у горад пасьпяшыце —
Алею добрага купіце —
Яшчэ пасьпееце назад —
Жаніх-то мусіць будзе рад? —

*

У мудрых лямпы і аліва —
Усё ў парадку — проста дзіва!
Усталі перад сонцам, рана
І ўсё было падрыхтавана.

Там лішняй ня было гаворкі:
Сьвяцілі лямпачкі, як зоркі,
А вочкі іх яшчэ ярчэй
І сэрцы білі гарачэй!

Сказалі дружна прывітаньне,
Сьпявалі стройна пажаданьні;
А гаспадар, (ён і жаніх!),
Прыемна радаваўся з іх.

*

Дурныя-ж зараз, без агляддкі
Бягуць наўскач — ва ўсе лапаткі:
(Маталіся на ветры грывы),
Купілі ў сьпешцы там алівы,
А сэрцы біліся бязь меры,
Нагамі грукалі у дзьверы —
Прасілі сьлёзна: — Адчыніце,
Ах, на вяселле нас пусьціце! —

Жаніх ім кажа: — Вас не знаю:
Гасьцей я болей ня прыймаю,
А ваша месца ўжо занята —
Без вас абойдецца ўсё сьвята! —

Бо госьць няпрошаны, як злодзей,
Заўсёды не ў пару прыходзе:
Галоў здаровых ня дурыце —
Далоў у цемру адступіце! —

*

ХРЫСТОС казаў:
— Ты не пазьніся бяз прычыны! —
Не знаеш дня, ані гадзіны:
Гатовы будзь, як час праб'ець,
Як рана певень запяець! —

Як споўніш у жыцьці задачу,
Здасі памысна справаздачу;
А Бог — Прамудры, Справядлівы —
Табе ён будзе Міласьцівы! —

(Матэй 25, 1 — 13)

### ТАЛЕНТЫ

Калісьці жыў-быў гаспадар —
Магутны, слаўны Валадар:
І ён аднойчы слугаў кліча
Ды ім сваю маемасьці ліча.

Ім кажа так: — Я зараз вам
Таленты дам —
На вашу волю. — Дзеткі мілы,
Працуйце кожны водле сілы!

Ты, Абэль — верны мой слуга —
Твая найпершая чарга:
Талентаў атрымаеш пяць. —
Цяжар вялізны, але ў меру:
Цябе я знаю — табе веру.

Як будзеш пільна працаваць,
Дык узрастуць усе таленты,
Як у даход, так у працэнты:
Такое маеш назначэньне —
Не на кантроль, а на сумленьне. —

Я-ж адыходжу адзінокі
У край далёкі:
Калі вярнуся, ты не знаеш
І не гадай — ты не згадаеш! —

*

А ты, Наум, слуга другі,
Быў верны мне — ня быў благі;
Твая разумна галава:
Табе я дам таленты два.

Ты ня гуляй з маей работай,
Але працуй з сваей ахвотай;
Як я вярнуся — (ўвечар, рана?) —
Магчыма, што неспадзявана, —
Ты аддасі за кожны год
І суму ўсю і ўвесь даход. —

Прыняў таленты наш Навум
З душою поўнай важных дум.
Сказаў сабе: — Я ўсё зраблю:
Заробіць ён — я зараблю! —

*

— Сроль, падыйдзі, слуга мой трэці,
Аднак усе вы — роўны дзеці:
Табе дам талент найлягчэйшы —
Толькі адзін, —
Ты — найслабейшы . . . —

Хто як працуе, зарабляе,
Такую ён адплату мае —
Паводле сілы і ахвоты —
Паводле выніку работы . . . —

Усе скланіліся з уцехай,
А гаспадар сабе паехаў . . .
Але куды? Хто ведаць можа? —
Табе працуем, моцны Божа!

*

І гаспадар, хоць дня не значыў,
Вярнуўся роўна-поўна ў год:
Стаў клікаць слугаў пачарод —
Браць па сумленьні справаздачу.

Яму найпершы наймiт кажа:
— Хай гаспадар усё разважа! —
Я пяць талентаў атрымаў,
А я-ж другія пяць прыдбаў; —
Бог даў мне сілу і ахвоту,
Каб споўніць цьвёрдую работу. —

А гаспадар яму на тое:
— Як ты таленты мае здвоіў,
Слуга ты добры, працавіты, —
Плачу ахвотна — будзем квіты:
Цябе пастаўлю тымчасамі
Над дзесяцьцю ўраз гарадамі! —

*

Другі — Наум: ён чуў і бачыў —
Сьпяшыў і ён на справаздачу
І кажа:
— Я меў таленты толькі два,
Дый мае рукі й галава
Усьцяж старанна працавала:
Даходу, праўда, меў я мала,
Але-ж таленты я падвоіў. —

А гаспадар яму — на тое:
— Слуга ты верны — аж мне дзіва,
Як ты працуеш справядліва!

Дык нагароду дам багату —
Чатыры гарады ў адплату! —

*

Прыйшоў і Сроль, а ён быў трэці
І кажа: — Я прынёс Вашэці
Твой талент — той адзін — назад.
Дый я — сказаць — і рад-ня-рад,
Што ўзяўся за тваю работу:

Спачатку, праўда, меў ахвоту
Пагараваць ня горш за тых,
Ды пажалеў я сіл сваіх. —
Падумаў я — (ну, так, завочы):
«Як гаспадар такі ахвочы,
Каб людзі на яго пацелі,
Хай сам дзярэцца ў сваім дзеле!»

Дык, каб твой талент не прапаў,
То я-ж глыбока закапаў:
(«Машына тут і панарад»),
Збыць з рук твой талент буду рад! —

*

А гаспадар гаворыць з гневам:
— Што мне рабіць з бясплодным дрэвам?
Дакрэт мой востры і суровы:
Скажу пасеч на дробны дровы,
А трэскі з тых нядатных дроў
Спаліць там, дзе «скрыгот зубоў»! —

*

Слуга лянівы і няверны —
Работнік марны і мізэрны!
Ганебна талент змарнаваў —
Не працаваў,
А закапаў . . .

Не захацеў па людзку жыць,
А мог у банк хоць палажыць
Усю маемасьць і багацьце:
Мы ня былі,б у такой страце —
Дасталі-б мы свае працэнты
На ўсе таленты! —

— Слугу нявернага зьвязаць:
Скаваўшы жорстка рукі й ногі
Ды, абламаўшы горды рогі,
Як страшны прыклад, паказаць! —

Хто ў працы любіць выкрутасы,
А есьці-піць-гуляць ён ласы,
Таленты й час свой марнатравіць,
Няхай яго пярун лепш спаліць!

(Матэй 25, 14 — 30)

## СТРАШНЫ СУД

ХРЫСТОС казаў:

— Калі надыйдзе канец сьвету,
Сын Божы сядзе
На пасадзе —
Асудзіць вашую плянэту —
Усе народы ў поўным складзе.

Анёлы борзда суд абвесьцяць:
Направа-лева ўсіх разьмесьцяць,
Так як пастух або купец, —
Казлоў асобна ад авец.

Там людзі, сем'і і народы —
Перамяшаны між сабой —
Адной вялізнай грамадой —
Судзьдзю пабачуць з той нагоды.

Пачнуць благія наракаць —
Жаль-плач, што нельга апісаць:
— Узгоркі-горы, ў страшны час
Закрыйце нас! —

*

Сын Божы скажа тым, што справа:
— О, вы, прыяцелі мае,
Вы скончылі труды свае!
Айцец прыймае вас ласкава.

А Валадарства абяцана,
Што ад стварэньня было сьвету,
Якраз яно ў хвіліну гэту
Для вас навек прышыкавана.

Вам дзіўна ўсё і вам здаецца,
Што за малітвы, пост, за труд,
Ці, як вялікі Божы цуд,
Вам шчасьце вечнае даецца? . . .

О, не! зусім ня так — ня тое:
Прыняты, праўда, ўсе труды,
Дый сама важна заўсягды
У Бога дзела вось якое:

Як меў я смагу, быў галодны,
Ці падарожны быў прыгодны,
Ці голы-босы, неадзеты,
Няшчасны, бедны, неагрэты,
Або ў вязьніцы закаваны,
Ці хворы, меў цяжкія раны, —

Дык вы заўсёды, як дазналі,
Мне ўсюды шчыра памагалі. —

*

Яны адкажуць, дзе прычына?
Мы не маглі цябе спаткаць,
Ані табе ў чым памагаць:
Было нам гэта немагчыма! —

Ці ты галодны, неадзеты,
Ці падарожны неагрэты,
Або ў вязьніцы, слабы-хворы
Або ў якім-бы іншым горы? . . . —

ХРЫСТОС ім скажа: — Мае дзеці!
Што вы рабілі па ўсім сьвеце —
Людзям у горы-недастатку,
Хоць і найменшаму дзіцятку,
Ці хоць мізэрнаму якому, —
ХРЫСТУ зрабілі — Мне Самому! —

Таму адплата вам даецца
На вечнасьць — так і ня мінецца! —

*

ХРЫСТОС прамовіць з грозным гневам
Да тых, што там стаяць налева:

— Быў я галодны, піць хацеў,
Быў у дарозе, не даеў;
Ці голы-босы, або хворы,
Або ў вязьніцы, ў іншым горы, —

Дык вы тады, хоць і маглі,
Мяне ні ў чым не ўспамаглі! —

Яны адкажуць: — Быць ня можа!
Было-бы гэта напрыгожа;
Аднак мы, міма твайго жалю,
Цябе ніколі не спаткалі! —

А ён ім скажа: — Вы — ня дзеці!
Бо людзі знаюць на ўсім сьвеце,
Што ты зрабіў каму другому,
Лічылася ХРЫСТУ Самому,
Хоць-бы ў якім малым выпадку,
Хоць і маленькаму дзіцятку . . . —

Затое й кара вам даецца
На вечнасьць — так і ня мінецца . . .

*

«Авечкі» пойдуць ў яснасьць вечну;
«Казлы» — у процьму бесканечну . . .

(Матэй 25, 31 — 46)

# Паводле Марка

## НЯБЕСНАЕ ВАЛАДАРСТВА

ХРЫСТОС казаў:
Падобнае нябесна Царства
Да гаспадаркі й Валадарства.

А на зямлі яно малое —
Гарчычнае зярнё такое —
Найменшае з усіх зярнятак:
Расьце, цьвіце і на астатак
Бывае дрэву ўжо падобна. —

Ліствой багата і аздобна:
Наўкол галінкі распускае,
Цянькoм зямельку пакрывае. —
Аж птаства з песьняй прылятае!
Прытулак знайдзе і ахову
І хатку ў непагадзь гатову . . . —

*

УВАГА:
Няхай-жа сьвет так не баіцца,
Што недзе ўжо людзтву зьмясьціцца!
Яшчэ ў багатага ёсьць многа
Прыбыткаў — там, у небе — ў Бога . . .

А дзякуй Богу і за гэту,
Што даў нам слаўную плянэту! —
Каб толькі людзі розум мелі —
Ня псулі д о м у, дзе сядзелі! —

(Марко 4, 30 — 32)

# Паводле Матэя і Лукі

## ЗАГАДКА САДДУКЕЯЎ

ХРЫСТОС сканфузіў фарызэяў,
Дык прыступілі саддукеі,
Пытаючы пра зьмёртвыхўстаньне:

— Скажы, ў якім там будуць стане,
Што на зямлі
Між нас жылі
Дый памярлі? . . .
Ну, й цела спарахнела й косьці. —
Дык на тым сьвеце, (калі ёсьці?),
Ты дзе і як ім жыць згадаеш, —
Скажы нам ясна, калі знаеш? —

Бо ты — прарок: ты мусіш знаць! —
Мы можам прыклад табе даць . . . —

ХРЫСТОС сказаў:
— Кажыце прыклад: гэта справа
Нам вельмі важна і цікава! —

*

САДДУКЕІ:

—Была такая ў нас жанчына. —
А нам ня ведама прычына,
Чаму там шчасьця не знайшла,
Як замуж у сям'ю прыйшла?

Было ў сям'і братоў сямёра,
А з таго выйшла і ўсё гора!
Памёр адзін — патомства ня было. —
Узяў яе другі — і так пайшло,
Што браў і трэці і так далей:
Чародна яе бралі
І скора паміралі. —

Так сем братоў — у тым разгоне —
Жылі ў Майсеявым Законе...
Ўканцы так — без дачкі, бяз сына —
Памёрла і жанчына!

Скажы, як будзе ў той дзень судны? —
Ты разьвяжы вузёл наш трудны! —
Ці ты гатоў?

Чыя-ж з сямі братоў
Вунь тая баба жонкай стане
У дзень зьмёртвыхустаньня?
Бо яе мелі — з свайго гора —
Усе браты — сямёра? ... —

*

Увесь народ аж хваляваўся
І кожны на Хрыста ўглядаўся:
Разьвяжа як загадку гэту
Прарок вялікі з Назарэту?

А саддукеі ў тым выпадку
Заплянавалі так загадку,
Каб тут Хрыстос, хоць мудры й сьмелы,
Ня выйшаў з катастрофы цэлы! —

«Ён трапіць нам, як рыба ў сетку,
Як мыш у пастку, птушка ў клетку!...

*

ХРЫСТОС сказаў:

— О, вы — ў падступным інтарэсе —
Зблудзілі так, як дзеці ў лесе!
Капаючы здрадліва ямы,
Вы трапілі ў іх самі:
Законаў Божых па зямному
Судзіць нельга нікому!

Парадак Божы ўвесь адменны
І не такі, як ваш тут, дрэнны:
Няма там хітрых, ні багатых,
Ані замужніх, ні жанатых. —
Усе шчасьлівы, ўсе вясёлы
І ўсе сьвятыя, як анёлы!

А што наконт змёртвыхустаньня —
Чытайце Божае Пісаньне! —

Ў пустыні Бог казаў Майсею, —
(Хай, хто чытае, разумее!) —
«Бог — Абрагама!» — так назваўся,
«Бог — Ізаака!» — так прызнаўся
І «Бог — Якуба!» — такім стаўся. —

Ня будзе Богам мёртвых ценяў,
Але жывых — ад ускрашэньня! —

*

Так саддукеі пустаслоўны
Упалі ў сорам — злосьці поўны...

За гэту славу й перамогу
Сказалі людзі: «Дзякуй Богу!»

(Матэй 22, 23 — 33)
(Лука 20, 27 — 39)

# Паводле Лукі

## ДВА БУДАЎНІКІ

### I

ХРЫСТОС казаў:
— Хтоколечы ко мне прыходзе
І хоча жыць са мной у згодзе,
Дый маё слова разважае,
А зараз верна выпаўняе, —

Скажу аб гэтым чалавеку,
Што ён у гэтым дрэнным веку,
Сапраўды, мудры будаўнік,
Які прывык,

Як дом вялікі ўзьнесьці мроіць, —
Інакш яго ня будзе строіць,
Як перш фундамант падмуруе
І на каменьнях угрунтуе;
А пасьле ўгору, колькі досыць,
Яго вышэй узносіць!

Аж найдзе бура, як на спробу,
Вятры ударыць, дождж залье,
Віхор вуглы ўсе патрасе, —
Дык ні людзей, ані худобы
Ня змогуць зьнішчыць, ні прыбіць,
Бо дом на камяні стаіць!

II

Але такі, што слухаў вухам,
А не праняўся маім духам —
У сэнс навукі не ўваходзіў
І слоў у практыку ня ўводзіў, —

Падобны ён будаўніку,
Што, меўшы зручную руку,
Ня меў у працы галавы,
Бо дом паставіў на пяску!

Хоць дом быў просты — ня крывы,
Але-ж у буру, ў дождж вялікі
Паўстаў у доме плач і крыкі —
Ледзь людзі выскачылі з дому,
Бо ня было жыцьця нікому!

І не прайшло адной гадзіны,
Як дом зваліўся у руіны...
Аж людзі з дзівам аглядалі
І аж галовамі ківалі, —
Казалі:
— ...майстар безгаловы,
Што дом паставіў бесталковы! —

*

Каб збудуваць трывала шчасьце,
Фундамант трэба моцны класьці:
Наконт збаўленьня — наконт неба
Служыць разважна Богу трэба!

(Лука 6, 46 — 49)

## МІЛАСЭРНЫ САМАРАНІН

Ад Ерыха ў Ерусалім
Ішоў з вузлом жыдок адзін.
Ды так сьпяшаўся ён туды,
Што — насупроць сваей бяды
І хоць няпэўная дарога —
Ішоў самотны — бяз нікога!

І ўсе малітвы скараціўшы,
І недаеўшы, недапіўшы,
Пабрыў старым, знаёмым шляхам
З адвагай ў думках, ў сэрцы з страхам...

То псальмы напяваў набожна,
То аглядаўся насьцярожна;
То падыймаўся ўвысь між гораў.
Дзяліўся з Богам сваім горам —
Тлумачыў Богу свае справы —
Казаў: — Ах, Божа, будзь ласкавы!
Ты знаеш, што я жыд пабожны —
Ня лепшы, як і іншы кожны... —

То апускаўся ўглыб даліны
Па блудных сьцежках сам адзіны, —
Аж нат жахнуцца ўжо ня мог —
Быў у руках бандытаў трох!

Аднак бывае, што жыд кажны
Ў бядзе як леў, як тыгр адважны:
Так гэты нейк скруціўся ў дужку
І двум зладзеям спусьціў юшку!
Але тут трэці, як намог,
Дык зьбіў яго раптоўна з ног! —

Ну, й білі жыда, як прымелі
І па ўсім целе,
Як населі —
Аж да паўсьмерці — ў страшнай злосьці —
Аж дзіва, што ўцалелі косьці!

І зьбеглі, шэльмы, ў ліхой долі:
Хто зловіць іх, як вецер ў полі?
Мяшок той падхапілі ўбогі,
А жыд ляжаў ускрай дарогі...

*

Праходзіў рабін сьцежкай тою
І нешта гаманіў з сабою,
Ці псальмы напяваў з Давідам? —
Якраз знайшоўся побач з жыдам,
Што там ляжаў пабіты, ў ранах,
Крывёй зыходзячы ад раньня. —

А рабін глянуць нат не рачыў,
Як-бы яго зусім не бачыў...

*

Левіт праходзіў тым-жа бокам
І ўбачыў жыда ненарокам —
Аж падзівіўся ў добрай волі
З таго няшчасьця і нядолі!

Дый — з браку часу і з нягоды —
Прайшоў ён міма той прыгоды:
Стагнаў той ранены жалосна —
Левіту ў сэрцы было млосна...

Дзівіўся: «Колькі тых ляжачых?
Дый не магчыма ўсіх падняці!...»

*

Як бачыў хворы тыя дзеі,
Ня меў ніякае надзеі —
Ні на жыцьцё, ні на ратунак,
Аддаўшы Богу свой трафунак. —

Бо так духоўныя асобы
Практычна вышлі з гэтай спробы:
З набожнай мінай прайшлі міма
І разам з псальмамі сваімі. —

Магчымасьць мелі так багату,
Каб даць падмогу свайму брату!...
Ці там малітвы ў той прыгодзе
Якраз стаялі ў перашкодзе? —

*

Аж вось чужацкі грамадзянін —
Ня жыд, а нейкі самаранін,
Які там міма ехаў конна,
Ня меўшы думкі забабоннай, —
Зіркнуў прыпадкам — толькі глянуў —
Убачыў жыда ў цяжкім стане, —
Пачуў у сэрцы спачуваньне.

Прыйшоў, агледзіў яго пільна
І, нахіліўшыся прыхільна —
(Прыгодны санітар старанны) —
Віном, алівай мазаў раны,
Дый хутка абвязаў агулам
І пасадзіў на свайго мула:

Служыў, як брату, ў дапамозе:
Яго падтрымліваў ў дарозе.
Як міласэрны бліжні кожны,
Завёз ў заезд — у прыдарожны:
Бяз просьбы нават, бяз прынукі
Аддаў яго ў надзейны рукі.

Сказаў таму там чалавеку:
— Дагледзь яго ды мей апеку!
Цяпер плачу я на пачатак
Дынараў пару, як задатак.
Пасьля, час даўшы сваей справе,
Сюды вярнуся неўзабаве.

Калі-б ты меў яшчэ расходы,
Дык мы пасьля — паводле згоды —
Разлічымся: ня будзе йначай —
Вярну з падзякай і з наддачай!... —

*

Зрабіў так добры, ў слове верны,
Той самаранін міласэрны. —

*

ХРЫСТОС казаў:

Якою меркай мерыць будзеш,
Такую плату сам здабудзеш.

А, хоць-бы бацька й родна маці
Не памаглі свайму дзіцяці,
Дык людзі ўсе на Божым сьвеце
Айца майго вы — дзеці!

Услужыш ты маломy брату —
Айцец аддасьць сто раз адплату! —

(Лука 10, 30 — 37)

## ГАСПАДАР І ТРЫ ХЛЯБЫ

Быў гаспадар, што посьле працы
З усей сям'ёй сабраўся спаці.

А чалавек — здаровы ён,
Дык і запаў у смачны сон!
Змарыўся ўдзень, дык серад ночы
Ён вельмі моцна сплюшчыў вочы.

І трэба-ж гэта? Як знарок,
Уночы жонка стук у бок!
Дый кажа: — Янкель, паглядзі:
Там нехта ля вакна — ідзі! —

А Янкель з ложка — да таго:
— Ну, хто стучыць? Ну, і чаго? —

А той знадворку так гавора:
— Тут я — сусед; а ў мяне — гора!
Прыйшоў ка мне жыдок набожны,
Ён — падарожны.

— Яго мне трэба накарміць,
А хлеб мы зьелі, што рабіць?
Устань ты! Сон з вачэй сатры —
Пазыч мне, братка, хлябы тры... —

А Янкель кажа: — Не магу!
Я-ж, як мядзьведзь, ляжу ў лагу.
І дзеткі сьпяць, замкнёны дзьверы,
А сам я змучаны бязьмеры... —

А той аж ляскае-бразгоча,
Здаецца, вокны дзерці хоча!

*

— Як ваша думка? — ХРЫСТОС кажа:
Ці Янкель дасьць, ці мо' адкажа?

О, не! Хоць губы грыз ад злосьці,
І хоць ад працы нылі косьці,
Але-ж устаў —
Хлябы тры даў,

Каб ад назолы адчапіцца,
Каб перастаў у дзьверы біцца!...

І Бог-Айцец, што вас так любіць,
Душы няшчаснай не загубіць:
Як вытрывала прасіць будзеш,
Дык ласку Божую здабудзеш.

(Лука 11, 5 — 10)

## БАГАТЫР

Аб багачу прыповесьць гэта:

Быў ураджай. — Дагодна лета, —
І сонца ў меру, дождж — на дзіва
І ўсё складалася шчасьліва!
Так узрастала ўсё прыгожа —
Пшаніца, рыс ды інша збожжа...

БАГАЧ казаў:
Бяда ад збытку! Дзе-ж падзеці?
Шчасьлівы — я, дый жонка, дзеці!
Ямо і п'ём ды банкетуем:
Толькі аб тым яшчэ бядуем,
Што аж мяне хапае злосьць —
Нястача складаў-схаваў ёсьць!...

Аднак вось плян такі ў мяне,
Схаваны ў сэрцы аж на дне:
Я шыта-крыта дапільную
Ды сьвірнаў, гумнаў набудую. —

Як напакую ўсюды роўна —
Душа і вока будзе поўна! —

Тады скажу душы маей,
Што ад усіх я багацей:
«Душа і сэрца і жывот,
Гуляй сабе, хоць на сто год!»... —

Яму Бог скажа: «Ты — шалёны!
Каб ты сабраў усе мільёны
І золата, што ёсьць на сьвеце
І збожжа, што пажалі ў леце, —

Дык што табе яно паможа,
Бо над табой — Магутнасьць Божа,
І ты сягоньня серад ночы
Навек заплюшчыш вочы!»... —

*

ХРЫСТОС казаў:
— Прапашчая таго надзея,
У Бога хто не багацее! —
Даремна скарбы заграбаеш,
Ці доўга з імі пагуляеш?

(Лука 12, 15 — 21)

## СМАКОЎНІЦА

Адзін быў нехта: меў расаднік,
Раскошны сад і вінаграднік:

А ў дзіўным садзе —
Вінаградзе —
Ён меў смакоўніцу дародну —
Прыгожу, стройну ды... бясплодну!

Яна й заходу вымагала,
Але штогодна пуставала;
Дык гаспадар — аж проста ў гневе —
Людзям казаў аб смокве-дрэве:

— Падрад прыходжу ў свой гарод
Я трэці год. —
А смоква, міма ўсей фатыгі,
Нам не дае ні адной фігі!...

Сякеры добра навастрыце
І на маіх вачах зсячыце!
Яна-бо сораму ня мае —
Нам месца дарма што займае. —

Дый агароднік кажа: — Годзе!
Яшчэ гадок чакаць ня шкодзіць:
Я абкарнаю, абкапаю
І гноем лепш паабкладаю. —

Аднак цярпець дальш мы ня можам:
Калі ізноў, (што ня дай, Божа!),
Яна па свойму не абродзіць,
Дык гаспадар хай ня прыходзіць! —

Мы самі выкінем з карэньнем,
Каб ня было паганай дрэні! —

*

ХРЫСТОС казаў:
Як дрэва добрае й благое,
Так і людзтво — яно такое:
Грахоў, хто з сэрца не адкіне,
Навек загіне!
Пакайцеся, пакуль у вас
Яшчэ ёсьць час!

(Лука 13, 5 — 9)

## ГОСЬЦІ НА ВЯЧЭРЫ

### I

ХРЫСТА прасілі на вячэру —
Аж ён дзівіўся там праз меру,
Як бачыў, што паміж усімі,
Браў кожны месца прад другімі!

ХРЫСТОС казаў:
— Цябе, як просяць на вяселле,
Ты скромны будзь у важным дзеле:
(Ты носам не валіся ў гразь!) —
На перша месца ня вылазь!
Бо, калі прыйдзе хто важнейшы,
А ты сядзіш на лепшым месцы,
Ці-ж гаспадар цябе ледзь-ледзь
Адтуль са стыдам ня сьпіхнець?

І ці не скажа: — Сунься ў кут,
А ён — важнейшы — сядзе тут?! —
Ты счырванееш, як бурак,
Але табе і добра так!... —

*

А калі ты, разумным быўшы,
Ды, хоць і першы там прыбыўшы,
Засядзеш ціха найніжэй,
Дык гаспадар цябе барджэй
Вышэй падыйме
І паніжэньне з цябе здыйме,
І гонар верне — ў мілай згодзе —
Пры ўсім народзе!

І так апошні першым сядзе,
А першы аж на самым задзе!

## II

Казаў ГАСПОДЗЬ, (усім на зьдзіў),
Гаспадару, што запрасіў:

— Скажу табе, (ты дай мне веру!),
Гасьцей, як просіш на вячэру,
Ня кліч братоў, ані сяброў,
Ні сваякоў, ні багачоў,

Каб і яны — табе ў адплату —
Не запрасілі цябе ў хату!
Бо, як пахваляць цябе людзі,
Дык што табе па сьмерці будзе?

А, як вячэру для гасьцей
Ты ладзіш, кліч як найгусьцей,
Каб прыбылі адны калекі —
Сьляпыя, бедныя, крывыя,
Глуха-нямыя, хваравекі —
Падонкі марныя людзкія... —

Тады-ж, усім людзям на дзіва,
Пачуеш, што душа шчасьліва:
Адплату дасьць Бог у сумленьні
Дый у сусьветным ускрашэньні.

*

Душу ахвяра узбагаціць —
Сам Бог заплаціць!

(Лука 14, 12 — 14)

## ВЯСЕЛЬНЫ БАНКЕТ

Уладзіў гаспадар банкет
На цэлы сьвет!
Прыйшла шчасьлівая гадзіна —
Жаніць меў сына:
Быў сын — адзіны, наймілейшы
І найсьвяцейшы!

Гатова ўсё: валы забіты
І бараны, што былі сыты,
І служба зручная сабрана
І дружба гучная сазвана.

Паслы паклічуць госьцяў важных,
Каб зараз-зараз прыйшоў кажны!

Дый дзіва! Як-то магло стацца,
Што госьці сталі адмаўляцца?

## I

Адзін казаў: — О, дзякуй дужа,
На жаль, мне час зусім ня служа!
А можа вы не дасьцё веры?
Купіў зямлю я ў добрай меры:
Там поле, лес і сенажаці —
На ўсё жыцьцё мне грунту хваце.

Дык ты скажы, як гавару,
Таму свайму гаспадару,
Што ў сэрцы просьбу яго маю,
Але запросін ня прыймаю! —

Зямелька-бо, ах, моцны Божа,
Такая слаўная, прыгожа —
Чаруе так душу і вока
І ў сэрца мне ўрасла глыбока!
Зямліцу трэба злюстраваці,
Ах, шмат работкі маю ў хаце!... —

Ён шпарка балбатаў і многа —
І да сябе і да нікога. —
Паслом прышлося адпрасіцца —
Ня даў вады напіцца!

*

Другі гамоніць: — Скажы «дзякуй!»
Дый з часу браку,
Хоць я ахвотна-бы прыйшоў,
Але купіў пяць пар валоў:
Прыбытак у мяне такі,
Што ўсе быкі —
Падарак Божы
І так прыгожы —
Аж мне здаецца —
Не наглядзецца!

Як заравуць у адзін голас —
Аж рэха ўвысь гудзіць бясконца —
Па горах, хмарах — аж да сонца! —
На галаве паўстане волас!

Аддаў на іх я ўсё багацьце —
Іду іх прабаваці:
Трэ' паддаваць ім больш ахвоты
Да ўсей работы. —

А чалавек, хоць сам ты рвешся,
Клапотаў тых не абярэшся —
На ўсе франты —
Аж задзярэш сам капыты!...

А ў вас вяселле,
Або пахмелле?
Але ў мяне ў душы разлом —
Пайшла галоўка хадыром!... —

І так паслы ледзь дачакалі,
Пакуль ён скончыць жалі
І пайшлі далей...

*

А трэці кажа: — (Ён здзівіўся) —
— Я сам тры тыдні як жаніўся:
А жонка слаўная такая —
Ніяк нікуды ня пускае!

— Любіся, кажа, са мной, годзе!
Каб не жалеў пасьля па шкодзе! —

І так мы цешымся з сабой,
Што я ўжо стаў і сам ня свой:
Адрокся ад сваіх людзей —
Бадай, што й ад душы сваей!

Бацькоў пакінуў, родны дом —
Брашу чужацкім языком:
Народ затраціў і дарогу
Да ўсяго сьвету, нават к'Богу!

Мне больш ня трэба ведаць-знаць,
Як толькі жонку абыймаць!... —

Паслыківалі галавой —
Махнулі на яго рукой!

Калі хто зблудзіць у сумленьні,
Дык прыйдзе поўна засьляпеньне...

*

Прыйшлі паслы, ды толькі самі,
Як ёсьць, з парожнімі рукамі:
І з жалям, з крыўдай расказалі,
Як госьці іх паквіталі. —

А гаспадар сказаў: — Што-ж? Шкода! —
Сарвана прыязьнь, згасла згода. —

О, нялюдзкія чалавекі, —
Так могуць згінуць аж навекі! —

(Лука 14, 16 — 24)

II (Паводле Матэя)

Наш гаспадар шле пасланцоў
Да ўсіх канцоў.

Ідзіце, кажа, на узьмежкі,
І на дарожкі, і на сьцежкі,
І на завулкі, пераплоты —
Да батракоў і між галоты...

Сьляпых паклічце і глухіх —
Прасіце і цягніце іх; —
Нямых, гарбатых і крывых,
А нат бязногіх і старых,
Тупых, мізэрных, дурнаватых
І недалужных, зызаватых...

Скажыце ўсім:
— Вы — дзеткі ў Бога,
А хоць вас многа, —
Ня возьме Бог у вас нічога,
Адасьць усім усё на сьвеце
І хоча мець вас на банкеце. —

*

Паслы ішлі — наўкол брадзілі
І заклікалі, і прасілі,
І прымушалі і лавілі,
Як удалося, — ды ўсёроўна,
Абы палата была поўна!

Зыйшліся госьці немарудна —
Натоўпам, гуртам, мнагалюдна;
Іх абмывалі, прыбіралі
Віно шыпуча налівалі!

Быў стол застаўлены багата —
Банкет-вяселле-баль і сьвята:
Усім усё даецца роўна, —
Гулянка слаўна, чара поўна!

І гаспадар прыйшоў наведаць
Гасьцей, каб дружна паабедаць:
Прыязным вокам іх акінуў —
Аж затрымаўся — меў прычыну, —
Сказаў ласкавую прамову —
Даём тут месца яго слову:

— О, дарагія мае дзеці!
На вас так міла паглядзеці;
А вы прыбраны, вы вясёлы,
Як-бы анёлы!

Сядайце! Будзем весяліцца —
Шмат лепш, чым вам магло-бы сьніцца ! —

*

Аж бачыць ён — ажно жахнуўся!
Прад нечым прыкрым апынуўся...

А гэта госьць быў абарваны
І ні абмыты, ні прыбраны:
Сядзіць між чыстымі, як Юда,
Як хуліган, або прыблуда!...

Дык гаспадар спытаў сярдзіта:
— Ты як пранік, ці ўлез ты скрыта?
О, ты, нахабны — госьць пабочны
Дый у адзетку несьвяточным! —

На стыд народу —
Сабе на шкоду! —
Не пастараўся ні памыцца,
Ні прыкрыцца!...
Прыйшоў сюды без пазваленьня —
І бяз сумленьня... —

А ён маўчаў, скасіўшы вочы,
Як злодзей, злоўлены ўпаўночы.

*

Так той бадзяга
Скончыў блага:
Бо гаспадар сказаў: — Зьвязаць!
У ланцугі перш закаваць:
Туды укінуць, дзе «зубамі
Скрыгочуць страшна век-вякамі!»

*

ХРЫСТОС казаў:

Было запрошаных так многа,
А выбраных?... Хто-ж знае?
Бо мой Айцец нідзе нікога,
Каб добрым быў, ня прымушае. —

Але сьвятых там будзе болей,
Хто Богу служыць з добрай волі.

(Матэй 22, 1 — 14)

## ЗГУБЛЕНАЯ ДРАХМА

Яшчэ прыповесьць ёсьць прыгожа:

— Падобна Валадарства Божа
Да простага выпадку ў хаце:
Жанчына мела ўсё багацьце —
Аж дзесяць драхмаў! — Божа мілы,
Адну, гуляючы, згубіла!...

Шукала цэлы дзень — нічога!
З гасьцей у хаце — анікога...
Яна і лямпку запаліла
І хатку вымятала й мыла,
Дый ператрэсла ў тым клапоце
Усё старэнькае лахмоцьце! —

Аж сьлёзы выціраць ўзялася, —
А драхма ўраз сама знайшлася!

*

Ну, бабка шчасьця ня стрымала —
Скарэй суседак пасклікала
Ды ім казала:

Ах, кумкі, цешцеся са мною —
Такою беднай удавою,
Што я, як у бяду зайшла,
Дык драхму згубленую знайшла! —

*

Так радасьці у небе многа,
Як грэшнік вернецца да Бога!

Цану душы — (ты можаш верыць) —
Сусьветным золатам ня зьмерыць!

(Лука 15, 8 — 10)

## БЛУДНЫ СЫН

Малодшы сын прыйшоў да таты,
Гаворыць цьвёрда: — Ах, айцец!
У кажным танцы ёсьць канец:
Пайду я ў прочкі з тваей хаты. —

Аддай мне, бацька, так як сыну —
(Трымай сваё, аддай маё!) —
Багацьця добру палавіну:
Вазьму з сабой дабро сваё!... —

Адвеку бацька быў разумны:
Ягону долю прадчуваў;
Што сын жадаў, усё аддаў;
Астаўся дома вельмі сумны.

*

Пусьціўся хлопец рэзвым крокам,
А сьвет у поўнай быў красе:
Цьвілі, здалося, краскі ўсе.
Сьвістаў, сьпяваў і бег з падскокам.

Прыйшоў у горад шумны, людны:
«Дзе тут падзецца?» — Проста, страх!
Наўкол чужыя — выбар трудны,
Але-ж меў грошы у руках...

Меў тканы пояс, моцна сшыты. —
О, пояс вельмі быў цяжкі,
Бо туга золатам набіты! —
Дар шчодрай бацькавай рукі.

Меў шалік шэранькі на шыі,
Вузлом завязаны глухім:
Таёмна захаваны ў ім
Цудоўны пэрлы дарагія.

Блудзіў-брадзіў і, знай-ня-ведай,
Шукаў работы, ці чаго? —
На шчасьце, тут знайшлі яго
Хлапцы, каб вызваліць ад бедаў!

Як акружылі навакола,
Дык балбаталі без канца. —
Вялі ў карчму з сабой хлапца:
Яму ды ім было вясёла!

Там накармілі, як дзіцятка,
К' сабе цягнулі грамадой —
Ажно сварыліся з сабой!
І напаілі: — Братка-братка! —

І так здружыліся да сьмерці:
Хлапец ад сэрца, хоць чужых,
Так палюбіў — плаціў за іх!
Любоў цьвіла і ў іхным сэрцы.

О, працы мала, п'янства многа! —
Пілі дый елі на убой;
Дзялілі дзевак між сабой
І не баяліся нікога!

Так пояс хутка стаў лягчэйшы,
Кружылі пэрлы, як гарох. —
Стагнаў у ночы: — Ах і ох! —
— Ну, заўтра буду разумнейшы! —

*

Аж вось настаў канец багацьцю:
Тут паўцякалі другі ўсе. —
Хлапец блудзіў, як гусь ў аусе —
Ні працаваць, ні жабраваці!

Калегі зьніклі, як камфора,
Даўгі пакінулі яму —
Па добрай дружбе — аднаму,
Каб мог пазнаць смак стыду й гора!

Дасюль, як прынц, хадзіў прыбраны,
Ды ўсё зьляцела за даўгі —
І плашч і пояс дарагі:
Хлапец, як дзед, быў абарваны.

Ён збрыдзіў новую адзежку, —
Зусім ня грэлі лахманы! —
(Хоць сам разумны, стаў дурны) —
Прасіўся нанач у начлежку.

На хлеб сухі стаў вельмі ласы:
Ні службы, дружбы... Красьці стыдна;
Жыцьцё паўзло, як смоўж, агідна,
Дык зацягнуўся ў сьвінапасы.

А гаспадар скупы як чорт,
Худы як воўк, сухі як хорт:
Карміў людзей
Горш чым сьвіней!

А сьвіньні — ў розуме сьвінячым —
Шукалі ежы круглы дзень.
Цягаўся хлопец — сьвінскі цень —
А лёс быў горшы чым сабачы!

*

Сын блудны, добра недаеўшы
І недаспаўшы, пахудзеўшы,
Пытаўся ціха сам сябе:
«Ну, што? Ці добра тут табе?..»

А там, у таты, Божа мілы,
Апошні наймiт так як сын;
А я — «сын блудны» — сам адзін —
Умру, бо жыць не маю сілы!..

О, не!
Пакіну ўсё — пайду да хаты,
Скажу: — Айцец, жыць не магу!
Прымі за рэшняга слугу:
Даруй! — Я — дурань — вінаваты... —

Ідзе, дрыжыць: сынок баіцца,
Бо «тата мо' прагоніць вон?
Я — грэшны, дрэнь — я, ветрагон...
О, мушу нізка пакланіцца!»

*

А бацька прадчуваў ад раньня:
Ня мог спакойна хлеба есьці,
Ані стаяць, ані прысесьці, —
Шаптаў: — Мой сын ідзе з выгнаньня...

Як выйшаў бацька, даўся дзіву:
Здалёку ўбачыў сына сьлед, —
Ішоў ён, згорблены як дзед. —
«Так, гэта — сын, няма сумніву!» —

Бяжыць ён сыну на сустрэчу
І не зважае на галечу,
І абымае з сілы ўсей
І прыціскае да грудзей —
Аж сэрца б'ецца,
Сьляза аж льецца!

А сын стыдаецца глыбока:
Ня сьмее нават падняць вока —
То скажа слоўца, то сарвецца —
Хвалюецца — ажно трасецца!

— Айцец, я грэшны прад табою
І я ня годны стаць слугою... —

Але-ж айцу і слухаць годзе —
Такі ён рады па ўсей шкодзе!

Ён кліча слугаў: — Пасьпяшыце!
Абмыйце сына, абстрыжыце, —
Майго багацьця не шкадуйце —
І апраніце і абуйце! —

Шыкуйце слаўную вячэру:
Цялё зарэжце сама сыта,
Віно ў збанох спаўна наліта —
Гуляць мы будзем ў поўну меру!

Бо сын зблудзіў і вось зьявіўся,
Як з гробу ўстаў, як ажывіўся! —
Гэй, клічце першых цымбалістаў
І музыкантаў і харыстаў!.. —

*

Эх, баль гудзеў-зьвінеў з размахам! —
Вярнуўся з поля старшы сын;
Ён спрацаваны быў адзін. —
Спытаўся з дзівам, з нейкім страхам:

— Якая трасца, што за ліха?
Гармідар, бубны дый шуміха... —

А слугі кажуць: — Бацька рады,
Што сын вярнуўся посьле здрады. —

Калі там баль кружыўся звонкі,
Якраз сам бацька выйшаў вонкі.
Стаў клікаць, стоячы на ганку:
— Заходзь, сынок мой, вып'еш шклянку!

А старшы — ў злосьці, ў жалю, з гора —
Бурчыць ды бацьку так гавора:
— Працую я, хоць дзень гарачы,
А ты мяне трымаеш йначай:

Ты не даеш мне лішняй крошкі,
Каб весяліцца, ну, хоць трошкі! —

А брат дабро нам змарнатравіў —
У п'янстве, ды ў распусьце, ў блудзе:
Цяпер у хаце госьцем будзе,
А бацька шэльме баль тут справіў... —

А бацька кажа: — Сын мой мілы!
З табой працуем, колькі сілы.
А што заробім, тое й маем
І шчасьця так не разьбіваем.

А гэты баль, што я наладзіў,
Дык я цябе зусім не здрадзіў,
Бо што маё,
То — і тваё!
А што я рады — гэта знача,
Што я жывога сына ўбачыў. —

Мой сын блудзіў, але зьявіўся,
Як мёртвы з гробу ажывіўся, —
Дык весяліцца нам патрэба,
Калі так рада зямля й неба! —

*

ХРЫСТОС казаў: — О, вам на дзіва,
Скажу, што неба больш шчасьліва,
Як хоць адзін устане з грэху:
Ён справіць большую уцеху,
Чым шмат дзесяткаў справядлівых,
Што ня былі грахамі скуты,
Якім ня трэба больш пакуты! —

(Лука 15, 11 — 32)

## БАГАЧ І ЛАЗАР

Жыў-быў калісьці пан вяльможны.
Хоць шалапут, ня быў бязбожны;
Як чорт скупы, а жыў ў раскошы
Ды раскідаў на збыткі грошы.
Злаваўся толькі, як бывала,
Якой драбніцы бракавала.

Адзеты ў аксаміт, атласы
І на віно, на ежу ласы:
Штодня банкеты, жарты, танцы —
Так час праходзіў на гулянцы.
Гасьцей таўклося ў хаце поўна,
Як на кірмашы усёроўна!

*

Жыў недалёчка Лазар бедны,
Што быў нікому непатрэбны:
Худы і хворы, абарваны,
Дый у струпох, у злосных ранах. —
Як дзед няшчасны прад народам
І горш галодны з кожным годам.

Прасіў ён есьці кожны ранак —
Даць са стала таго там пана:
Багач скупы і служкаў школіў —
Даваць ні крошкі не пазволіў:
Кідалі рэшткі хоць за браму,
Аб'едкі у памыйну яму...

Сабакі толькі літасьць мелі:
Няраз, як Лазара абселі,
Яму лізалі раны з гною
І аж бурчэлі між сабою! —
Так Лазар век свой жыў пад Богам —
Амаль у пана пад парогам!

А быў ціхі — аж проста дзіва!
Прасіў ахвяраў так цярпліва,
Што за малую нат крышынку
Маліўся добрую гадзінку...
Сьпяваў і плакаў «Бог — уцечка!»
Пакуль зусім ня згас, як сьвечка.

Анёлы браму адчынілі,
Душу з бярлогу падхапілі:
Панесьлі ўраз у неба сама,
На лона ўсклалі Абргама.
А хор анёлаў сьпяваў псальмы,
Кідалі кветкі, слалі пальмы!...

*

Багач гуляў і дні і ночы —
Ажно пакуль памерклі вочы! —
Яго хавалі, як героя, —
Ня знай, за што і за якое? —
Было ўсё цела сапсавана,
Душа у пекле пахавана! —

Аж дух яму ў агні запёрла! —
Язык здубеў, засохла горла. —
Падняўшы вочы ў неба, бачыў,
Што Лазар жыў зусім іначай:
«На лоне» — ў шчасьці Абрагама,
Як і сьвятыя гэтак сама!

Багач у пекле — ў самай браме —
Загаласіў: — Ах, Абрагаме!
Пашлі мне Лазара ў бядзе:
Хай змочыць пальчык у вадзе; —
Яго сьвятая хай рука
Майго даткнецца языка,

Бо я-ж у пекле і ў нядолі
Зноў паміраю тут ад болю:
Канаю так я, мне паверце,
І не магу навек памерці!
Такая вечнасьць немагчыма
І сам не знаю, дзе прычына?

Абрам казаў: — Ты лепш маўчы!
Успомні, як ты, жывучы,
У славе, ў роскашы шалеў, —
Галодны Лазар ажно млеў! —
Цяпер-жа ён — у хвале вечнай,
А ты у пекле — бесканечна...

Парадак гэты неадменны.
Я знаю — лёс твой страшна дрэнны,
Але тут прорва паміж намі —
Яе ня пройдзеш век-вякамі!
Куды хто трапіў, дзе-ж падзецца? —
Так і жыве — так астанецца!...

*

Багач заплакаў. Дальш гавора:
— Ёсьць, Абрагаме, інша гора:
Цярплю — няхай! хоць не гатоў. —
Але-ж я меў там пяць братоў,
Пашлі ты Лазара да ўсіх,
Каб пекла не злавіла іх! —

Абрам казаў: — Пакінь надзею!
Пасланць я Лазара ня сьмею;
А зрэшты, ён там непатрэбны —
Ісьці у сьвет такі ганебны:
Браты твае — ўсе абібокі. —
Майсей там быў, былі й пракокі...

Багач казаў: — Трэ ўсё разьмерыць:
Яны прарокам не паверацъ!
Бо свет зрабіўся як найгоршы. —
О, каб вярнуўся хто з памёршых! —
Тады-бы кожны ведаць мог,
Як за грахі асудзіць Бог!... —

На сьвеце лепш сто год цярпець,
Як тут хвілінку ў пекле тлець. —

Абрам сказаў: — Так, браце мілы!
Каб сто людзей прыйшло з магілы,
Каб грамада із гробу ўстала, —
Калі Майсея ім замала
І ўсіх прарокаў, мілы Божа,
Дык ім ніхто больш не паможа!... —

*

Размова тут і абарвана. —
І так для Лазара й для пана
Няма гадзін, ні днёў, ні часу,
Ні перапынку, ні папасу:

Трывае вечнасьць —
Бесканечнасьць. —
Запала клямка за тым панам —
Анёлы ўсе сказалі: — Аман! —

(Лука 16, 19 — 31)

## НЯГОДНЫ СУДЗЬДЗЯ

Аднойчы быў судзьдзя нягодны:
Сабе ён толькі ня быў шкодны;
Але людзям на што ён здаўся,
Калі і Бога не баяўся,
Ані людзей ён ня стыдаўся?

А ў горадзе была удоўка,
Ну, і дакучліва жыдоўка!
Яна судзьдзі так даядала —
Ні спаць, ні есьці не давала!

Хадзіла так, як ішлі дні:
— Ад ворага мяне ты бараці!...
— Ня маю часу! — судзьдзя скажа,
Зачыніць дзьверы і спаць ляжа.
А баба бразгае дзьвярамі —
І рана, днём і вечарамі...

Судзьдзя з той злосьці так гаворыць:
— Пабачым, хто каго заморыць?
Яна мяне, ці я яе?
Як чорт і з ведзьмай — мы свае... —
Аж ня стрымаў судзьдзя нягодны!
— Ня буду, кажа, сабе шкодны:
Дасюль я Бога не баяўся,
Дабром ніякім не займаўся —
На грош я не зрабіў нічога —
Для нікога. —

Але, як баба надаела,
Закончу я там ейна дзела! —

— Хай людзі кажуць, як на дзіва,
Што я хоць раз судзіў праўдзіва . . . —

*

ХРЫСТОС казаў:

Вы чулі, як судзьдзя фальшывы,
А стаў на момант справядлівы? —

Ці-ж Бог сваіх не абароніць
І злога духа не прагоніць?
І ці пазволіць, каб хто ў злосьці
Так мучыў вас — аж нылі-б косьці?

Дык у спакусах, ў паніжэньні,
І ў працы, ў слабасьці, ў цярпеньні
Узносьце вашы рукі й вочы
Да Бога ўдзень і серад ночы! —

Айцец дзіцяці голас чуе,
А Збаўца ў бедах паратуе . . . —

(Лука 18, 1 — 8)

## ФАРЫЗЭЙ І МЫТНІК

Была адчынена царква,
Прышлі маліцца два:
Адзін быў фарызэй набожны,
Другі быў мытнік падарожны.

Ну, фарызэй стаў пасярод —
Там, дзе маліўся ўвесь народ;
А мытнік быў аж пад парогам —
Ня смеў публічна стаць прад Богам.

І так абодва, як былі,
Маліцца шчыра пачалі.

*

Вось фарызэй маліўся гэтак, —
І за сябе, за жонку й дзетак:
— О, Божа дарагі, мой мілы,
Маліцца буду з цэлай сілы!

Найперш даю Табе падзяку;
Але пры тым зраблю адзнаку,
Што я ня грэшны, як другія —
Зладзеі, круцялі ліхія,
Няверныя ці ашуканцы,
Ды п'яніцы — паганцы,
Ці, што стаіць там, мытнік-чмут,
Махляр і баламут!

Бо я праз свой працяжны век
Зусім быў іншы чалавек, —
Ня так, як кожны злыдзень:
Пашчу я двойчы ў тыдзень,
А за народныя правіны
Кладу законны дзесянціны;
Нясу царкоўныя падаткі
І розныя дадаткі.

А ўжо-ж маліцца калі стану,
Дык сьмела Богу ў вочы гляну,
Бо я ўвесь чысты перад Богам —
Ня-то, што той там пад парогам! . . .

*

А мытнік — «грэшнік!» — людзі знալі
І яўна гэтак празывалі:
З народу з лішкай рваў падаткі
І стуль зрываў сабе астаткі. —

Так гэта, як і ўсё другое,
Яму ў душы было цяжкое,
Дык ён прад Богам спавядаўся
І суду Божага баяўся.

Цяпер у гэтай Божай хаце
Ня сьмеў ані вачэй падняці:
Не бачыў, як маліліс людзі,
Але пакорна біўся ў грудзі.

Казаў: — Я — грэшнік непамерны,
О, Божа, будзь мне міласэрны! —

*

Як памаліліс гэтак Богу,
Пайшлі з царкоўнага парогу.

*

ХРЫСТОС казаў: — О, вы мяркуйце!
Сябе да гэтых двух раўнуйце —
І як жылі і што тварылі,
Як посьле з Богам гаварылі?

Хоць мытнік — грэшнік быў паганы,
Вярнуўся болей апраўданы,
Чым фарызэй, што так хваліўся. —
Ён тут мыліўся:
На Божым страшным Судзе —
Менш апраўданы будзе!

(Лука 18, 9 — 14)

## УДОВІНА АХВЯРА

ХРЫСТОС і вучні раз сядзелі —
Адпачывалі дый глядзелі,
Як у сьвятыню плыў народ:
Ішлі-плылі так пачарод
Да ёмістай царкоўнае скарбонкі.

Там золата, ці срэбра, медзь
Шуршэлі ціха, ледзь-ня-ледзь;
Ці то зьвінелі,
Ці бражджэлі,
Калі багатыя з разгонам —
З размахам, шыкам із гамонам, —
Кідалі важкую манэту —
На дзіва й славу ўсяму сьвету!

Аж падыйшла адна жыдоўка:
З адзетку знаць — была удоўка —
Нябога, як сухар, худая —
Пакорна, скромная, ціхая; —

Яна хусьцінку разьвязала
І дзьве манэткі, як дастала, —
У скрыню скокнулі з рукі
Два медзякі . . .

Сама яна, відаць знарок
Нязначна шуснула у бок:
Малітву вуснамі шаптала,
Душой у неба узьлятала.

*

ХРЫСТОС апосталам гавора
Пабачце вы, як з свайго гора
Вунь тая бабка — супраць тых —
Закасавала іх усіх! —

А Пётр казаў: — Так быць ня можа!
Багач вунь золата палажа,
А баба што-ж? . . .
ХРЫСТОС на тое:
— Ну, ты, Сымон, пляцеш другое. —

Яны кідалі з свайого збытку,
Яна-ж дала не ад набытку,
Але ад працы, ад галечы —
Злажыла труд свой чалавечы. —

— Ахвяра ейна многа значыць —
Бог гэта бачыць! —
І на Судзе Бог вам пакажа,
Як медзь ад золата больш важа. —

(Лука 21, 1 — 4)

## ДОБРЫ ПАСТЫР

Я — добры Пастыр для авец:
Не як пастух або кулец,
Які працуе для карысьці,
Каб есьці мяса, косьці грызьці.

Я — добры Пастыр — не пастух:
Пазнайце вы мой Божы Дух!
З ваўком-драпежнікам ваюю —
Жыцьцём сваім Я рызыкую.

А найміт што?
Ён любасьці не мае:
Авец хоць сто,
А найміт уцякае —
Баіцца грозных львоў,
Шакалоў ды ваўкоў . . .

Я — Пастыр добры:
Авечкі даюць веру,
Бо Я хаджу праз дзьверы.
А ліхадзею ўсё адно,
Як злодзей, лезе праз вакно;
А ў цёмнай ночы
Воўк падкапацца хоча . . .

Я — мудры Пастыр
І маю голас звонкі:
Ка мне бягуць авечкі ў перагонкі:
У іх інстынкт ёсьць свой
І ў цемры знаюць голас мой. —

Ад ворага ўцякаюць —
Ягонай ласкі ня прыймаюць.

Авец ня бью — ласкава заклікаю
І ўвечар іх пералічаю:
Як з соткі хоць адной бракуе,
Я-ж доўга не мяркую,

А зараз у тым горы
Бягу ў пустыню або ў горы
І слухаю і наглядаю —
Авечку з церняў вызваляю,
Ці вырву ад ваўка з зубоў —
На плечы ўскіну і — дамоў! . . .

Хоць рукі у крыві ў мяне,
Мая авечка не загіне —
Ні ў горах, ні ў пустыні,
Ні ў яме, хоць на дне! —

Я — Пастыр верны,
Магутны й Міласэрны:
Я знаю ўсіх
Авец маіх —
Жыцьцё Я палажыў за іх!

*

ХРЫСТОС казаў:

Як грэшнік прыйдзе ў добрай волі,
Дык радасьці у небе болей
І дзіва болей шмат,
Чым з добрых дзевяці й дзевяцьдзесят! —

(Ян 10, 1 — 18)

# З царкоўнага жыцьця

ПАДРЫХТОЎКА да ЭКУМЭНІЗМУ: Апостальскі Пасад выдаў дырэктывы адносна экумэнізму — гэта камэнтар дакрэту Ватыканскага Сабору. Тут гаворыцца аб тым, як выхоўваць людзей, асабліва моладзь для справы экумэнізму. Належыць у школах, на унівэрсытэтах знаёміць моладзь з праблемамі экумэнізму і паглыбляць зразуменьне патрэбы адзінства хрысьціянскае веры. Асабліва кладзецца націск на прыгатаваньне сьвятароў у духу экумэнізму. Радзіцца асноўваць спэцыяльныя інстытуты і факультэты, дзе маглі-б рыхтавацца будучыя працаўнікі да экумэнічнае працы.

ДЫЯЛЁГ: кардынал Даніэлю і камуніст Гаропі, (гэтага нядауна выключылі у Францыі з партыі, але ён трымаецца камуны).

Яму кардынал паставіў пытаньне, ці камуна і далей змагаецца з рэлігіяй? Гароді адказаў, што камуна ня выступае супраць рэлігіі, але супраць скрыўленьня ў рэлігіі.

Аднак кард. Даніэлю выказаў факты яўнага прасьледу самой рэлігіі, асабліва ў Саветах.

Пасьля Гароді паставіў закід Катал. Царкве, што забараняе супрацоўнічаць з камунаю ў змаганьні з капіталізмам. Кардынал выясьніў, што такая супраца немагчыма, бо камуна наагул ня прызнае правоў супрацоўніка: хто прабуе з імі супрацаваць, той мусіць падлегаць ім цалкам — або стаць камуністам, або ісьці пад іх сьцягам. Камуна ня прызнае двух сумленных сьветапаглядаў.

І каталікі не патрабуюць камуністычнае праграмы, каб бараніць работнікаў: вера ня перашкаджае ў абароне пакрыўджаных, але спрыяе гэтаму, даючы падставы справядлівай любові бліжняга. Прыкладам гэтага ёсьць сацыяльны рух у Паўдз. Амэрыцы пад праводніцтвам арцыбіскупа Дом Гэльдэр Камары.

Гароді мусіў прызнаць рацыі кардынала, але даказваў, што ў Францыі ані каталікі, ані камуна ня могуць абыйсьціся адны бяз другіх у змаганьні з грамадзкай крыўдаю працоўнага народу.

*9-ая падарож Папы:* У Ватыкане аб'яўлена, што ў лістападзе адбудзецца падарож Папы на Філіпіны, а пасьля ў Аўстралію, дзе сьвяткуецца 200-лецьце адкрыцьця гэтага кантынэнту. Там ладзіцца спатканьне з біскупамі ўсяе Акініі. Гэтая падарож будзе найдалейшай і найдаўжэйшай Паўла VI і дасьць нагоду Папе пазнаёміцца з справамі канфлікту ў В'етнаме і прасьледу Царквы ў Кітаі.

ЮБІЛЕЙ ПАПЫ: 50 ўгодкі ягонага сьвятарства (29 мая). Пры гэтай нагодзе Павал VI пасьвяціў 279 дыяканаў з 33 нацыяў на сьвятароў! У прамове Папа казаў, што цешыцца з нова пастаўленымі маладымі сьвятарамі; але гэтае сьвята ёсьць ня толькі іх асабістым шчасьцем, а фактычна шчасьцем для людзей, дзеля якіх яны пасьвячаны. Праз сьвятароў Хрыстос раздае свае ласкі ўсім людзям з сваіх заслугаў, якія здабыў праз крыжовую сьмерць.

ЗЕМЛЕТРАСЕНЬНЕ Ў ПЭРУ: У чэрвені здарылася страшэннае гэтае няшчасьце: згінула да 50 тысяч народу; два гарады зьніклі з паверхні зямлі, 250 тысяч людзей — асталася без даху. Пасьля катастрофы адазваліся з помаччу добрыя людзі розных краёў, было ў гэтым ліку нямала каталіцкіх арганізацыяў. Павал VI заклікаў увесь сьвет, асабліва каталікоў, кажучы, што цяпер ніякая адлегласьць ня можа служыць апраўданьнем адмоўным.

РЭЛІГІЯ Ў САВЕТАХ: Падчас жорсткага прасьледу рэлігіі вядуць ціхую апостальскую працу некаторыя адзінкі, якія ў лістох падтрымліваюць вернікаў. Адзін з такіх, Левітан — (гэта псэўданім) — прыслаў пісьмо Рымскаму Папе, у якім расказвае пра сымпатыю вернікаў ды імкненьне да злучэньня Цэркваў і адзінства веры. Ён сьведчыць, што вера ў Саветах жыве ня толькі ў душах людзей старшых, але ў моладзі. Пісьмы Левітана расходзяцца па вялікіх прасторах Саюзу.

СЫНОД БІСКУПАЎ (з усяго сьвету краёвых дэлегатаў) адбудзецца ў восені 1971 году. Ужо цяпер Сакратарыят рассылае да Біскупаў апытальнік, якія справы (яны ўважаюць) павінны быць унесены ў праграму Сыноду.

# З беларускага жыцьця

## ГАДАВЫ З'ЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

У суботу 20 чэрвеня адбыўся ў Лёндане 24-ты гадавы з'езд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Новая Галоўная Ўправа была выбрана ў наступным складзе: сп. Я. Міхалюк — старшыня, сп. Т. Кажаневіч — заступнік старшыні, сп. П. Навара — сакратар, сп. П. Асіповіч — скарбнік.





Зньмкі: Купальскі вечар у школе сьв. Кірыла

---

## ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

Самакат зьявіўся ў Англіі ў 1880. У бел. слоўніку названы «веласіпед», ня ведама нашто? Узялі з расейскага, але гэтае слова складаецца з двух лацінскіх: «вэлёкс» — шыбкі і «пэс» — нага. Калі тымчасам у нас найлепш зразумелыя назвы: самакат, самаход, самалёт...

Фабрыка алуўкоў (карандашоў) была найперш пабудавана ў Нямеччыне ў 1760.

Жылеткі да галеньня вынайшоў Чарль Жыллет у Злучаных Штатах Амэрыкі ў 1887.

Джон Рокфэллер нарадз. ў 1839 ў беднай сям'і і пачаў вучыцца позна на вячорных курсах. Пробаваў шчасьця ў розных дробных прадпрыемствах: пачаў дзеіць, маючы два даляры ў кішэні. А ў XX стагодзьдзі ён — «кароль нафты» і найбагацейшы чалавек у сьвеце! Памёр маючы 98 гадоў у 1937.

Люі Брай, сьляпы ад 7 гадоў, абдумаў альфабэт для сьляпых: чытаецца абмацкам (пальцамі), — 63 знакі. Кніжкі друкуюцца пукатымі літарамі. У інтэрнатах выхаваўцы праводзяць рэвізію ў сьляпых падросткаў, каб не хавалі нанач цікавых кніжак пад падушку і ня чыталі іх перад сном патаёмна.

Найбольшы вынаходчык Том Эдісон: зарэгістраваў сотні сваіх вынаходаў. Памёр у 1931 г. ў Злуч. Штатах. Найбольш адзначыўся ў электрыцы, тэлеграфе, тэлефоне і ў шмат іншых...

Фатаграфія ўвайшла ў практыку ў 1840 ў Францыі. Вынаходзтва Вільяма Тэльбота.

*

У Атлянтыцы рыба номіхтіс мае да 2 мэтраў даўжыні, але адзін толькі цэнтымэтр шырыні.

Кайры — птушкі, якія жывуць на паўночных берагох Эўропы, Азіі, Амэрыкі: плаваюць, жывяцца рыбай. Характэрныя тым, што нясуць яйкі ў форме грушкі; а гэта таму, каб ня скочваліся з аткосаў, на якіх ладзяць свае гнёзды.

## ЗЬМЕСТ



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.